Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

6 — 12 лютага 1999 года
№ 6 (164)
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 3000 руб.
Цана ў розніцу — 5000 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ-БАРАНАВІЧЫ-БЯРОЗА-ПРУЖАНЫ

## НАВІНЫ: ЧАС МЯСЦОВЫ

ІВАЦЭВІЧЫ

### Ажыве цуд неаготыкі

Брэсцкія абласныя ўлады пагадзіліся з прапановай Івацэвіцкага райвыканкама, вытворчага прадпрыемства "Саюзтэхсэрвіс" і Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Беларусі аб перадачы Косаўскага гістарычнага палаца, што размешчаны ва ўрочышчы Марачоўшчына, ва ўласнасць ВА "Саюзтэхсэрвіс".

Гэты велічны палац, адзін з найпрыгажэйшых у Брэсцкай вобласці помнікаў архітэктуры XIX стагоддзя, дагэтуль заставаўся безгаспадарным. У 80-я гады Міністэрства сельскай гаспадаркі БССР мела намер зрабіць тут санаторый, аднак мяркуемыя затраты аказаліся празмерна вялікімі. Затым вытворчае аб-днанне "Інтэграл" збіралася стварыць , будынку палаца базу адпачынку, аднак на гэты раз улады не далі сваёй згоды. У 90-я гады аграфірма з Івацэвічаў прэтэндавала на гэты будынак. Некалькі гадоў таму быў абвешчаны конкурс на права стаць гаспадаром Косаўскага палаца, але цікавых прапаноў не паступіла.

І вось нарэшце гэты архітэктурны помнік можа займець гаспадара. Як гаворыцца ў рашэнні аблвыканкама, гэты будынак адчужаецца "з мэтай прыцягнення пазабюджэтных інвестыцый для рэстаўрацыі палацава-паркавага ансамбля, а таксама аднаўлення маёнтка Тадэвуша Касцюшкі...". Калі Савет Міністраў Беларусі пагодзіцца з рашэнем аблвыканкама, то ў 10-гадовы тэрмін прадпрыемства "Саюзтэхсэрвіс" павінна будзе выканаць увесь комплекс рэстаўрацыйных работ па аднаўленні гістарычнага будынка, а таксама работы па аднаўленні за свой кошт маёнтка Тадэвуша Касцюшкі, што размешчаны непадалёку ад палаца.

### Ні святла, ні вады

Радаваліся жыльцы кааператыўнага дома па вуліцы 70 год Кастрычніка ў Івацэвічах. Нарэшце, збылося, чаго чакалі. 80-кватэрны дом здадзены ў эксплуатацыю. Старшыня МПМК-11 Н. М. Стральчук гутарыў з кожным гаспадаром кватэры, запэўніў усіх, што ўсё будзе ў парадку. Паверылі начальніку. Але ж на другі дзень ва ўсім доме не стала ні святла, ні вады. Кватэры, праўда, ацяпляюцца.

"Звонім начальніку МПМК-11 Н. М. Стральчуку, — паведамляюць у рэдакцыю жыльцы дома, — а ён нас супакойвае і абяцае, што ўсё будзе..."

Ужо трэці тыдзень абяцае кіраўнік будаўнічай арганізацыі, што ў новым доме будзе і святло, і вада.

Колькі ж можна гуляць у абяцанкі-цацанкі?

## КОНКУРС "САМАЯ ОБАЯТЕЛЬНАЯ И ПРИВЛЕКАТЕЛЬНАЯ"



*ГАЛИНА, по гороскопу — Водолей. Люблю путешествовать, слушать тихую, мелодичную музыку, нравится проводить время на танцевальных вечерах. Ну, а так как я родилась зимой, то люблю мое время года — лето.*

### Усім хочацца сала

Нездарма супрацоўнікі ДАІ, якія дзяжурылі на пасту "Сасновы Бор", зацікавіліся аўтамабілем "Мерседэс-Бэнц 407". Іншамарка аказалася колькі мажліва набітай свіным салам — аж 3 тоны 876 кілаграмаў. Калі ў грашовых адзінках, дык амаль на 930 мільёнаў рублёў. Гаспадыня грузу, жыхарка Кобрына, прызналася, што везла прадукт, каб яго перапрадаць. Вартавыя парадку абарвалі нахабную спробу спекулянткі ачысціць прылаўкі айчынных гастраномаў.

### Гінуць пешаходы

На трасе Брэст—Мінск каля вёскі Воля Івацэвіцкага раёна 27 студзеня пад коламі легкавой аўтамашыны загінуў чалавек. Ім аказаўся жыхар вёскі Яблонка, які пераходзіў аўтамагістраль. Іншамарка ўшчэнт разнесла чалавека. Па факту гібелі пешахода ўзбуджана крымінальная справа. Вядзецца следства.

Дарожная трагедыя здарылася днямі ля пасёлка Майск. Там таксама пад коламі аўтамабіля загінуў пешаход.

ПРУЖАНЫ

### Мы — с гербом!

Пружанский районный Совет депутатов на своем заседании утвердил герб города. Им стал древний герб Пружан. Он представляет собой щит, на голубом поле которого изображена извивающаяся змея, из пасти которой наполовину высовывается ребенок. До этого райцентр жил с советским гербом, который ничего общего с историей города не имел. Самое смешное то, что за год до этого местными чиновниками был объявлен конкурс среди населения на лучший проект герба города. Потом победителям вручили денежное вознаграждение, по тем временам довольно большое. И вот сейчас городу вернули настоящий исторический герб. Остаётся надеяться, что в скором времени и Беларуси вернут её настоящую символику. Хороший пример для этого показали пружанские избранники народа.

### Моладзь убаку

Як вядома, апальны Вярхоўны Савет 13-га склікання вызначыў дату правядзення выбараў прэзідэнта РБ. Стварылі Цэнтрвыбаркам. Абралі камісію. Вось і ў Пружанах як заўсёды першай адгукнулася на такую справу суполка БНФ. Яна пачала ствараць выбарчыя камісіі. Да яе далучыліся сябры з ТБМ імя Ф. Скарыны. Вядуцца перамовы са "сваімі камуністамі". Другая буйная Пружанская суполка — АГП — прыме ўдзел у стварэнні выбаркама абавязкова. А вось адна з вядомых дэмакратычных маладзёжных арганізацый Пружаншчыны "Грамадзянскі форум" на сваім сходзе вырашыла заняць нейтральную пазіцыю. Як пажартаваў старшыня форуму:

— У нас ёсць пачуццё гумару, але ж не да такой ступені.

Ну што ж, гумар гумарам, а моладзь зноўку паказала, што не збіраецца быць уцягнутай у палітычныя гульні дарослых. Мабыць, так яно і лепей.

### Аплодисменты "Христофору"

Повод посмеяться для пружанцев нашёлся: в городе выступал известный театр сатиры и юмора "Христофор". В местном Доме культуры был аншлаг. Буквально за неделю раскупили все билеты, хотя стоил один немало — 200 тысяч руб. Зрителям, не проявившим проворливость, пришлось приносить в зал свои стулья, а некоторые и вовсе стояли. Такие неудобства были скрашены зажигательным юмором артистов. Зал буквально надрывался от смеха.

Побольше б таких дней.

БАРАНОВИЧИ

### Похороны-протест

В акцию протеста против криминализации общества вылились похороны убитого водителя такси. Около 150 автомашин следовало за гробом. В знак траура на их антеннах были повязаны черные ленты. По мнению водителей, именно таксисты становятся наиболее частыми жертвами нападений со стороны преступников, и поэтому милиция должна обратить на эту проблему особое внимание.

### Фокусы для ребят

Артисты Ленинградского цирка иллюзионисты Людмила и Георгий Аверьяновы в течение недели давали представления в школах города Барановичи. Их концерт длился чуть больше часа. На глазах у ребят происходили настоящие чудеса — Георгий прокалывал шпагами свою помощницу, сам себе вонзал в руку нож. Во многих фокусах, а их более 30, ребята сами могли принять участие.

### Вы говорите по-английски?

Областная олимпиада по английскому и немецкому языкам проводилась в Барановичах. В ней приняли участие старшеклассники общеобразовательных школ, лицеев, школ с углубленным изучением языка различных городов Брестской области.

Знания учащихся оценивали преподаватели Брестского государственного университета и Барановичского высшего педагогического колледжа. Все участники олимпиады показали высокий уровень подготовки. Представительница Барановичей, десятиклассница Анна Цыманова, заняла 2-е место. Еще семеро городских ребят получили грамоты Брестского областного управления образования.

### Выпадак на возеры

Буйная аварыя адбылася падчас адлігі на Баранавіцкім штучным возеры, створаным на рацэ Мышанка. На адным з каналаў пад націскам абвалілася металічная апорная пліта. Узровень вады ў возеры панізіўся за адну ноч на 80 сантыметраў, перапоўнiўшы рэчышча плыткай ракі. Да месца катастрофы былі кінуты аварыйна-выратавальныя службы, якія заблакіравалі прарыў, ліквідаваўшы такім чынам пагрозу парушэння экалагічнай раўнавагі ў рэгіёне.

## Становішча ўскладняецца: грып наступае

У сувязі з ростам вострых р эспіраторных захворванняў і захворванняў на грып у 2,8 разы, раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі распрацаваў пастанову і шэраг мерапрыемстваў па барацьбе з вышэйназванымі інфекцыямі.

У пастанове, падпісанай галоўным санітарным урачом раёна А. А. Ковышам, звяртаецца ўвага на неабходнасць забеспячэння ўрачамі, медыкамі, кіраўнікамі прадпрыемстваў, арганізацый санітарна-праціваэпідэмічнага рэжыму на прадпрыемствах, школах, ПТВ, садках-яслях. Звяртаецца ўвага на абавязковасць нашэння 4-слойных марлявых павязак персаналам медыцынскіх, дзіцячых і аптэчных устаноў, а таксама прадпрыемстваў сферы абслугоўвання. Забараняецца праводзенне масавых мерапрыемстваў у школах і дзіцячых установах.

Работа школы спыняецца ў выпадку парушэння вучэбнага працэсу з-за адсутнасці па хваробе да 40 працэнтаў настаўнікаў і вучняў.

БЯРОЗА

### Стогадовы юбілей



Казіміры Францаўне Галаўко, жыхарцы горада Бяроза, споўнілася 100 гадоў. З днём нараджэння доўгажыхарку цёпла павіншавалі шматлікія сваякі, прадстаўнікі грамадскасці.

Жанчына на сваім вяку мала хварэла. Яна добра памятае падзеі, якія шугалі ў родных мясцінах і захавала цікавасць да сённяшняга жыцця. Казіміра Францаўна бадзёрая, кожны дзень завіхаецца каля пліты, каб згатаваць сабе ежу, сама прыбірае ў пакоі.

У райцэнтры жывуць трое гараджан, якія дасягнулі такога шаноўнага ўзросту — 100 гадоў. У раёне ж людзей, якім споўнілася 90 і больш гадоў, налічваецца 80 чалавек.

*НА ЗДЫМКУ: К. Ф. Галаўко.*

*Інфармацыйны выпуск "Навіны: час мясцовы" падрыхтавалі: Л. ЦАЛУЙКА, С. КАЖАДУБ, А. ГОРБАЧ, А. ЛАЎРАНЮК (Івацэвічы), С. РУСЕЦКІ (Бяроза), М. КУЛІКОВА (Баранавічы), прэс-служба МА "Грамадзянскі форум" (Пружаны) і фотакарэспандэнт А. ГАНЧУК.*

НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ

## “Газпрам” скараціў пастаўкі

***З 28 студзеня гэтага года пастаўкі расійскага прыроднага газу на Беларусь скарочаны на 12 працэнтаў.***

Асноўнай прычынай скарачэння паставак газу, як лічаць у беларускім урадзе, з'яўляецца павелічэнне яго спажывання ў Расіі ў сувязі з моцнымі маразамі, якія назіраюцца ў шматлікіх рэгіёнах Расійскай Федэрацыі. Аднак, на думку незалежных экспертаў, скарачэнне паставак газу ў рэспубліку грунтуецца на велізарнай запазычанасці, што ў 1998 годзе дасягнула 320 млн. долараў ЗША.

## За цвёрдую валюту

***З 1 лютага Брэсцкі аўтавакзал прадае білеты на Украіну за долары ЗША і маркі Германіі.***

Як патлумачыў БелаПАН начальнік Брэсцкага аўтавакзала У. Фенцісаў, за валюту прадаюцца білеты толькі на рэйсы ўкраінскіх аўтобусаў; рэйсы брэсцкага аўтапарка па-ранейшаму аплачваюцца ў беларускіх рублях. Па яго словах, гэта звязана з тым, што аўтапарк вымушаны разлічвацца з перавозчыкамі-нерэзідэнтамі ў цвёрдай валюце. За яе з 1 лютага прадаюцца таксама білеты на маршруты польскіх перавозчыкаў.

## Апусцелі засекі Радзімы

***Як паведаміў старшыня камітэта хлебапрадуктаў мінсельгасхарчу Міхаіл Петрашкевіч, сённяшніх запасаў збожжа, як сваіх, так і набытых за мяжой, хопіць толькі да сакавіка.***

Да новага ўраджаю Беларусі трэба набыць яшчэ каля 300 тысяч тон пшаніцы, а таксама 800 тысяч тон фуражнага збожжа — для вытворчасці камбікармоў.

Нагадаем, што мінулай восенню ўрад прыняў рашэнне аб выдзяленні 7,5 мільёна долараў ЗША на закупку за мяжой пшаніцы для выпечкі хлеба і хлебабулачных вырабаў. Гэтыя грошы ўжо ўсе разышліся, але збожжа ўсё роўна не хапае.

## Дзеля Дажынак пашыраць Дняпро

***Велізарныя сродкі выдаткоўваюцца на рэканструкцыю райцэнтра Шклоў, каб падрыхтаваць яго да святкавання сёлетніх Дажынак.***

План падрыхтоўкі да сёлетняга свята, зацверджаны добрым тузінам міністраў беларускага ўрада, паступіў у Шклоўскі райвыканкам для выканання.

Агульны бюджэт усіх работ — 7,3 трыльёна рублёў. На гэтыя грошы будзе пабудаваны новы аўтавакзал, пашырыцца гарадскі стадыён, пройдзе рэканструкцыя фабрычнай лазні, а таксама будуць збудаваны некалькі новых шматпавярховых дамоў у цэнтры Шклова. А яшчэ ў райцэнтры з'явіцца дэбаркадэр, і падчас Дажынак па Дняпры пачнуць курсіраваць цеплаходы, для чаго прадугледжана пашырыць рэчышча ракі.

## Брэсцкая гарэлка зноў у чэмпіёнах

***З перамогай вярнуліся нядаўна спецыялісты Брэсцкага лікёра-гарэлачнага завода з міжнароднай выставы спіртных напояў, якая праходзіла ў Ялце.***

Брастаўчане на суд кампетэнтнага журы прадставілі чатыры найменні сваёй прадукцыі, і ўсе яны атрымалі ўзнагароды. Найбольшы поспех — у навінкі БЛГЗ — 45-градуснай гарэлкі “Палярная”. Ёй прысуджаны гран-пры. Залатыя медалі дасталіся “Бальзаму брэсцкаму” і гарэлцы “Беларусь сінявокая”, сярэбранай узнагароды ўдастоілася настойка горкая “Беларуская паляўнічая”.

## Пацалунак тысячагоддзя

***Дзеля таго, каб трапіць у Кнігу рэкордаў Гінеса, Беларусь вырашыла паставіць самы рамантычны рэкорд — прадэманстраваць самы масавы пацалунак на нашай планеце.***

І дзень для ажыццяўлення гэтай задумкі яе ініцыятары абралі таксама самы рамантычны — 14 лютага, калі ўвесь свет адзначае Дзень святога Валянціна — свята ўсіх закаханых. Апошняе сусветнае дасягненне ўстанавілі для Кнігі рэкордаў Гінеса тры гады таму студэнты Мейнскага універсітэта ў Злучаных Штатах Амерыкі, якія прадэманстравалі пацалунак адразу 2840 чалавек (або 1420 пар).

Беларусы ж вырашылі ўзняць гэту планку адразу ў 2,5 раза і сабраць у адным месцы 4 тысячы пар (8 тысяч чалавек), каб ажыццявіць новы рэкордны пацалунак.

*(БелаПАН — “Звязда”).*

ПРАШУ СЛОВА

# ДВА ГАДЫ ЗА КРАТАМІ

Як хутка бяжыць час! Здаецца, толькі ўчора сустракалі 1999 год, а на вуліцы ўжо люты. Менавіта ў гэтым месяцы спаўняецца два гады, як знаходзіцца за турэмнымі кратамі дэпутат Вярхоўнага Савета, прадпрымальнік, бацька дзвюх дачок — Уладзімір Аляксеевіч Кудзінаў.

Як ён спяшаўся жыць! Яму не хапала часу, каб паабедаць дома, раней прыйсці дадому пасля работы. Выхадных па сутнасці ў яго не было. Толькі праца. Як у тым фільме — “праца на першым месцы, і на другім, і на... дзесятым”.

Як часта тады я гаварыла яму, пераконвала, што не ў той дзяржаве і не ў той час мы жывём, каб раскрываць свае здольнасці, прымяняць свой розум. Нават прадказвала, што ўсё роўна прыйдуць да ўлады камуністы, як у 1917 г., усё забяруць, а нас адправяць на Салаўкі. Што і здарылася на самай справе. Яны знішчылі прадпрыемства, разрабавалі яго, пасадзілі ў турму Кудзінава.



Хто ж атрымаў выгаду ад гэтага? Дзяржава? Не, яна панесла вялікія страты: бюджэт не далічыўся падаткаў, а гэта больш за 600 тыс. долараў у год, дзяржава плаціла звольненым 350 рабочым дапамогі, несла страты па ахове разрабаванай гаспадаркі ў вёсцы Гічыцы.

Але ж самае галоўнае ў гэтай справе тое, што вялікае маральнае задавальненне атрымалі тыя, каму перашкаджаў Кудзінаў — прадстаўнікі прэзідэнцкай вертыкалі. Ну як жа так, знайшоўся нейкі Кудзінаў — незалежны ад іх, са сваёй думкай, розумам. Ды яшчэ адмаўляўся плаціць ім даніну нават за тое, што яны “не перашкаджалі яму працаваць” (са слоў мясцовага вертыкальшчыка). Нават нягледзячы на тое, што і жонка працуе ў райвыканкаме. Тады і жонку давай тэрарызаваць, толькі каб пасадзіць на месца такога непакорнага камерсанта.

А колькі бруду было выліта ў перадвыбарную кампанію! Але ж людзі паверылі ў маладога, адукаванага прадпрымальніка. Ён стаў дэпутатам Вярхоўнага Савета XIII склікання. І там ён не адышоў ад сваіх поглядаў, прынцыпаў, застаўся верным Канстытуцыі 1994 года. Хаця ў тую, перадрэферэндаўскую ноч, з Кудзінавым праводзілася вялікая работа вертыкальшчыкамі рознага рангу. Абяцалі зялёнае святло ў прадпрымальніцкай дзейнасці, добрую пасаду і нават кампенсацыю страт, нанесеных усімі праверкамі. Кудзінаў цвёрда трымаўся сваіх поглядаў. Тады, у тую ноч, адзін з памочнікаў прэзідэнта так званы “гранатамётчык” Віктар Кучынскі сказаў: “Што ж, тады май на ўвазе, калі мне прэзідэнт скажа адзець табе кайданы, я надзену іх на цябе”.

І ў хуткім часе надзелі. Ужо два гады чалавек здольны і ўжо аднойчы даказаўшы, што ён можа не на словах, а на справе працаваць дзеля людзей, сядзіць за кратамі.

Але ж я ўпэўнена, што ў хуткім часе ўсё зменіцца. Гэты час не за гарамі. І Кудзінаў выйдзе на волю.

*З. КУДЗІНАВА.*
**г. Івацэвічы.**

ПАСЛЯ ПАДЗЕІ

# Кангрэс — надзея дэмакратаў

Ад нашага раёна ў Кангрэсе дэмакратычных сілаў Беларусі, у якім удзельнічала каля 800 дэлегатаў ад усіх дэмакратычных партыяў і плыняў, удзельнічалі чатыры чалавекі. Гэта старшыня Косаўскай суполкі БНФ Стэпусь А. А., старшыня раённай рады БНФ Курыс А. А., сакратар раённай Рады БНФ Дрык Л. А. і сябра Аб'яднанай грамадзянскай партыі Кудзінава З. М.

На Кангрэсе прысутнічалі прадстаўнікі дэмакратычных арганізацый Расіі, Польшчы, Літвы, Эстоніі, Украіны, Чэхіі, паслы Англіі і Германіі, прадстаўнік ад АБСЕ.

Паседжанне асвятлялася тэлекампаніямі ГРТ, РТР і НТВ, дзвюма беларускімі тэлепраграмамі, карэспандэнтамі радыё і газет замежжа і Беларусі.

Адкрыў Кангрэс і далей ім кіраваў старшыня Нацыянальнага выканаўчага камітэта ценявога ўрада Беларусі Г. Д. Карпенка.

Прывітальнае слова да ўдзельнікаў Кангрэса меў народны паэт Беларусі Н. С. Гілевіч, які ў пранікнёных, даходзячых да самых глыбінь сэрца словах, выказаў трывогу і боль за стан нашай дзяржавы, яе культуры, мовы, адукацыі і эканомікі.

Усяго на Кангрэсе прагучала 28 дакладаў і выступаў вядомых палітыкаў дэмакратычнага накірунку нашай краіны, а таксама шматлікіх гасцей.

Не маючы магчымасці асвятліць усе гэтыя выступы, адзначу толькі, што ўсе яны заслугоўваюць нашай пільнай увагі, бо прасякнуты трывогай і болем за лёс нашай Бацькаўшчыны.

Самымі яскравымі былі выступленні С. Г. Шарэцкага, Г. Д. Карпенкі, М. І. Пастухова, Л. П. Баршчэўскага, С. С. Шушкевіча, Г. М. Бураўкіна, Я. Н. Лугіна, Ю. Хашчавацкага.

З гасцей, што прысутнічалі, найбольш запомнілася выступленне дэпутата Дзяржаўнай думы Расіі К. Баравога.

Прадстаўнік Літвы ў сваім выступленні выказаў вялікае здзіўленне тым, як мы, беларусы, ставімся да сваёй мовы — адной з самых прыгожых у свеце, якая ў свой час была агульнай для беларусаў і летувінаў, мовы, на якой быў напісаны Статут Вялікага Княства Літоўскага — першай у Еўропе канстытуцыі.

Галоўныя вынікі Кангрэса наступныя:

1. Прыняты вельмі важныя рэзалюцыі: аб парушэнні правоў чалавека ў Беларусі; пра пагрозу дзяржаўнасці і суверэнітэту Рэспублікі Беларусь; пра адносіны да выбараў; пра негрунтоўнасць эканамічнай і сацыяльнай палітыкі прэзідэнта і ўрада Рэспублікі Беларусь; пра кансалідацыю дэмакратычных сіл Беларусі.

2. Выпрацавана сумесная платформа Кангрэса дэмакратычных сілаў Беларусі.

3. Прыняты зварот да парламентаў, урадаў і грамадскасці свету аб падтрымцы незалежнасці Беларусі.

Бадай, самы галоўны вынік Кангрэса той, што падпісана пагадненне аб стварэнні Каардынацыйна-кансультатыўнай рады дэмакратычных сіл Беларусі, механізм дзеяння якой будзе распрацаваны ў бліжэйшы час.

Мне асабліва прыемна, што Кангрэс прайшоў пад знакам БНФ. Большасць кіраўнікоў дэмакратычных партый і руху Беларусі прызналі, што БНФ з'яўляецца адзінай рэальнай сілай, здольнай змагацца за незалежнасць сваёй Бацькаўшчыны.

*Аркадзь КУРЫС,*
*старшыня Івацэвіцкай раённай Рады БНФ.*

# Беларусь абуджаецца

29—30 студзеня г. г. у Мінску адбыўся Кангрэс дэмакратычных сілаў Беларусі.

Прывітальныя словы да ўдзельнікаў Кангрэса і сваю падтрымку выказалі пaслы Польшчы, Украіны, Літвы, дэпутат Дзяржаўнай думы Расіі К. Баравы. Зачытваліся прывітальныя тэлеграмы ад паслоў іншых замежных краін. З залы паседжанняў Кангрэса вялі тэлевізійныя рэпартажы 5 тэлекампаніяў. Сярод тэлежурналістаў быў і наш паважаны зямляк П. Шарамет.

Асабіста мне больш запомнілася даклад прафесара М. Пастухова “Прававая ацэнка дзейнасці прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнкі пасля лістападаўскага рэферэндуму 1996 г. і пытанне яго легітымнасці пасля 20 ліпеня 1999 г.”; выступы в. а. старшыні БНФ “Адраджэнне” Л. Баршчэўскага “Выратаванне Беларусі як галоўная мэта ўсіх дэмакратычных сілаў” прадстаўніка Гродзенскай вобласці С. Домаша, сустаршыні “Маладога Фронту” П. Севярынца, кінарэжысёра Ю. Хашчавацкага, якія неаднаразова перапыняліся апладысментамі і скандзіраваннем “Жыве Беларусь!” Калі Хашчавацкі прапанаваў Вярхоўнаму Савету давесці да завяршэння справу імпічменту, у зале некалькі хвілінаў гучала дружнае “Імпічмент”. Найбольш спадабаўся выступ Л. Баршчэўскага, у якім былі паказаны канкрэтныя накірункі-задачы дзейнасці дэмакратычных сілаў на будучыню: прыняцце грамадзянства Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР), збор подпісаў за адстаўку прэзідэнта і інш. Нават старшыня Цэнтральнай Рады БСДГ С. Шушкевіч заклікаў усе партыі дэмакратычнага накірунку, усіх грамадскіх і палітычных дзеячоў стаць на абарону незалежнасці Беларусі поплеч з БНФ “Адраджэнне”, які на дадзены момант з'яўляецца найбольш згуртаванай, арганізаванай, масавай сілай.

Вынікам працы Кангрэса сталі рэзалюцыі “Пра адносіны да выбараў”, “Пра пагрозу дзяржаўнасці і суверэнітэту Рэспублікі Беларусь”, “Пра дыскрымінацыю беларускай мовы”, “Пра кансалідацыю дэмакратычных сілаў Беларусі”, “Пра негрунтоўнасць эканамічнай і сацыяльнай палітыкі прэзідэнта і ўрада...”, супольная платформа Кангрэса дэмакратычных сілаў Беларусі і інш. Дадаткова перад Каардынацыйна-кансультатыўнай радай, створанай Кангрэсам, былі пастаўлены патрабаванні да ўрада Беларусі: аб высвятленні 3-пад варты Васіля Старавойтава; аб забеспячэнні гарантыяў бяспекі пры вяртанні на радзіму старшыні БНФ “Адраджэнне” Зянона Пазняка. Адначасова Кангрэс прыняў пастанову аб падтрымцы і дапамозе ўсіх дэмакратычных сілаў усеагульнага страйка рабочых.

Пасля закрыцця Кангрэса 30 студзеня адбылося шэсце. Нягледзячы на люты мароз, народу сабралася шмат. Калона дэманстрантаў расцягнулася на праспекце Скарыны ад вуліцы Казлова і амаль да самога опернага тэатра з бел-чырвона-белымі сцягамі. З вялікім жаданнем усіх: і дэмакратаў, якія ішлі ў калоне, і людзей, якія віталі іх, стоячы на тратуарах, жыць у незалежнай, свабоднай, шчаслівай краіне — Беларусі. Над калонаю неслася “Жыве Беларусь!”

*Галіна КАВАЛЕВІЧ,*
*удзельніца Кангрэса.*
*г. Бяроза.*

# ПЕДАГОГІКА



## Па мясцінах А. Міцкевіча

Новы музей-сядзібу Адама Міцкевіча, што ў вёсцы Завоссе Баранавіцкага раёна, наведалі вучні 11 "В" класа СШ № 4 г. Івацэвічы. Пасля іх маршрут пралёг у Навагрудак, дзе рабяты пабывалі ў доме-музеі вялікага славянскага паэта. На зваротным шляху школьнікі зрабілі прыпынак ля возера Свіцязь, апетага ў многіх творах Адама Міцкевіча.

У дзяцей засталіся вялікія ўражанні ад пабачанага і пачутага падчас экскурсіі.

*Л. САШЫН.*

## Школьны псіхолаг: рэальнасць і будучыня

*Для многіх з нас школа асацыіруецца з такімі стандартнымі прадметамі як матэматыка, гісторыя, хімія, беларуская ці руская мовы. Але час не стаіць на месцы. У школе з'яўляюцца і такія "спецыфічныя" пасады як сацыяльны педагог, педагог-арганізатар, псіхолаг.*

*На гэты кантынгент настаўнікаў падае асноўны цяжар у выхаванні, фармаванні дзіцячых характараў.*

*На сённяшні дзень у школах горада працуе толькі некалькі псіхолагаў — ва ўсіх чатырох СШ і ПТВ-162. З наступнага навучальнага года плануецца ўвядзенне гэтай пасады і ў астатніх школах раёна. Як жа працуецца "першапраходцам" псіхалогіі ў раёне? Мы рашылі правесці бліц-апытанне з ужо працуючымі псіхолагамі івацэвіцкіх школ, прапанаваўшы адказаць ім на тры наступныя пытанні:*

*1. Якія яны, сённяшнія дзеці? У чым адрозненне сённяшніх вучняў ад вучняў 70—80 гадоў?*

*2. Ці ўплываюць эканамічная і палітычная сітуацыі ў краіне на працэс станаўлення вучня?*

*3. Што неабходна змяніць у рабоце псіхолага, каб яго праца стала больш дзейснай?*

**Тамара Анатольеўна мАЙСЮК, псіхолаг СШ № 1 г. Івацэвічы:**

1. Вучні 70—80-х, да якіх, дарэчы, я адношуся сама, і вучні сённяшнія, канешне, адрозніваюцца. У той час мы мелі зусім іншыя ідэалы, арыенціры. Нашы тагачасныя мары — паступленне ў ВНУ, добрая спецыяльнасць, імкненне рэалізаваць сябе ў жыцці, зрабіць штосьці карыснае для Радзімы. Арыенціры сённяшніх вучняў зусім іншыя.

2. Так, уплывае і перш за ўсё на дзяцей. Яны ўсё бачаць, адчуваюць, усмоктваюць, нібы губка, усе "прелести" жыцця нашага. Не хаваюцца, як дарослыя, за стэрэатыпы, ...эмы. Свет дзіцяці не свет робата; ён узбагачаецца не па зададзенай кімсьці схеме, а імправізавана, кожны дзень, кожны час. На жаль, рэчаіснасць такая, што не прыходзіцца чакаць штосьці добрае ў такой сітуацыі...

3. Неабходна стварыць належную базу пад працу псіхолага. Мы ж пачынаем практычна з нуля. Адсутнічае практычная псіхалогія, няма і адапціраваных методык. Але горш за ўсё тое, што наша грамадства мала падрыхтавана да ўспрымання працы псіхолага...

**Алена Міхайлаўна СВІГЛА, псіхолаг СШ № 2 г. Івацэвічы:**

1. Светапогляд моладзі мяняецца, але ці не лепш было б замест таго, каб займацца "кансервацыяй" педагогікі, паспрабаваць самім змяніць формы адукацыі, а не проціпастаўляць сябе новаму часу. У школьнай сістэме шмат што ўстарэла, патрабуе больш гнуткага падыходу. Пры класнаурочнай форме адукацыі мы веды нібы спускаем зверху, не даём вучням зазірнуць на "кухню" навукі. Можа тут і нараджаецца проціпастаўленне пакаленняў 70—80-х гадоў і сённяшніх?

2. Сапраўды ўплывае. Таму ў час імклівых зменаў палітычнай і эканамічнай сітуацыі працы псіхолага павінна быць аддадзена найбольшая ўвага. Бо на сённяшні дзень мы чалавека вывучаем толькі анатамічна. А пасля здзіўляемся, што нашы дзеці не ўмеюць будаваць адносіны паміж сабой, з цяжкасцю адапціруюцца ў жыцці, лёгка кіруюцца людзьмі з крымінальнымі намерамі.

3. Ёсць пэўныя праблемы з адаптацыяй псіхолага ў сістэме адукацыі. Але на гэта патрэбен час. Увогуле, узровень развіцця псіхалогіі як навукі на Беларусі высокі, але метадычнае аснашчэнне не самае лепшае. Існуе праблема і прафесійнага станаўлення. Многія з нас маюць за спіною толькі курсы перападрыхтоўкі.

**Наталля Рыгораўна РАК і Наталля Сяргееўна ШАПАВАЛ, псіхолагі СШ № 3 г. Івацэвічы:**

1. Параўнанне дзяцей 70—80-х гадоў з сённяшнімі не на карысць апошніх. Сёння больш дзяцей з адхіленнем псіхікі, разумова адсталых, больш "неблагаполучных" сем'яў і, як вынік, "цяжкіх" дзяцей. Расце бездухоўнасць, абыякавасць да ўсяго. Разумеем, што ў кожнага пакалення свае каштоўнасці, але шмат што зразумець цяжка. Але працуем. Рукі не апускаем.

2. Уплывае. І нават вельмі істотна.

3. Патрэбна лепшае матэрыяльнае аснашчэнне, інтэр'ер, метадычны інструментарый: ксераксы, кампутары, бланкі і г. д. А параўнайце стаўкі псіхолага і любога іншага настаўніка. У нас — 40 гадзін, у астатняга педкорпуса — 18. Штосьці тут недапрацавала ці, можа, перапрацавала міністэрства...

**Ніна Леанідаўна СУХАНОСІК, псіхолаг СШ № 4 г. Івацэвічы:**

1. Сённяшні час не час сентыменталістаў ды рамантыкаў. Дзеці сталі больш практычнымі, матэрыяльна зацікаўленымі. Мне прыходзіць на памяць тое, з якім энтузіязмам мы ў юнацтве збіралі тую ж макулатуру, перажывалі за канчатковы вынік, радаваліся, што паехалі ў Ленінград, дзякуючы перамозе. Сёння дзеці больш цяжкія на ўздым. Таму работы псіхолагу з імі вельмі шмат.

2. Уплывае. Я нават думаю, што тыя адрозненні, пра якія вы ўспаміналі ў першым пытанні, навеяны новымі палітычнымі і эканамічнымі рэаліямі. Дзеці бачаць, што сацыяльны статус іх, іхніх бацькоў вельмі розны. Хачу адзначыць, што з асяродку "элітных" вучняў выходзіць шмат раўнадушных "дафеністаў", з якімі знайсці агульную мову няпроста.

3. Прабачце, а што змяняць? Мы ж пачынаем практычна з нуля. Добра, што ў педкалектыве разумеюць неабходнасць і важнасць працы псіхолага, ідуць насустрач. Тое, што можа зрабіць школа, яна робіць, але, па вялікаму рахунку, усё ўпіраецца ў фінансавыя праблемы. Да прыкладу, ёсць цудоўныя відэакасеты для вучняў па ўзаемаадносінах палоў, на тэму СНІДу, наркаманіі. Ды толькі за што купляць гэтыя касеты?..

**АД АЎТАРА. Калі пачынаў апытанне, прысвечанае працы псіхолага, то, шчыра кажучы, не чакаў адчуць усю вастрыню, глабальнасць праблем, якія стаяць перад "першапраходцамі" гэтай навукі ў нашым рэгіёне. Але тая гібкасць розуму, тонкае разуменне спецыялістамі сітуацыі, на якое аўтар гэтых радкоў перш за ўсё звярнуў увагу, дае магчымасць зразумець, што справа скончыцца не толькі дыягностыкай праблемы, а і вырашэннем гэтых праблем. А спецыяльнасць псіхалогія знойдзе шырокае прымяненне не толькі ў школах райцэнтраў нашага рэгіёна, але і ў сельскіх школах.**

*Падрыхтаваў А. ГОРБАЧ.*

## Бить или не бить?..

Чтобы яснее представить суть проблемы, обратимся к классику:

"Невысоко взмахнув рукой, он хлопнул прутом по голому телу. Саша взвизгнул.

— Врешь, — сказал дед, — это не больно! А вот эдак больней!

И ударил так, что на теле сразу загорелась, вспухла красная полоса..." (М. Горький, "Детство").

Такие нравы царили в XIX веке. Но и теперь, спустя столетие, случается, рука сурового родителя или требовательного педагога в припадке праведного гнева тянется к ремню или уху с единственной целью — образумить непутевое и вконец распустившееся чадо.

Приемлемы ли данные методы воспитания в современном обществе? Что думают по этому поводу противостоящие стороны? На эту тему я и решил пообщаться с учителями, детьми и их родителями г. Березы.

**Андрей Иванович (учитель в старших классах):**

— Бить или не бить? Понимаете, есть категория учащихся, которых бить не то что нужно — просто необходимо. Сидит такой великовозрастный балбес на уроке, сам ничего не делает и другим мешает. Вот если бы выпороть хорошенько, толк, я думаю, был бы. Жаль, в школе это не делается, а дома родители так и могли бы...

**Светлана Николаевна (учительница начальных классов):**

— Ну нет, конечно. Как можно ударить ребенка? Детей надо любить. В том, что ребенок непослушный, вина, скорее, родителей и педагогов. Не нашли они "золотой ключик" к сердцу, душе ребенка...

**Елена Николаевна (учительница русского языка):**

— С точки зрения педагогики, это недопустимо, но если признаться честно, то иногда так и хочется это сделать. Слова не действуют, уговоры не действуют, учитель тоже ведь не железный.

**Вова (ученик 7 класса):**

— Я думаю, что не надо бить учеников. Бывает, уроки там не выучишь или плохо ведешь себя. Так это потому, что тема может неинтересная или непонятно что-то...

**Катя (5 класс):**

— Детей бить нельзя. Вот только мальчиков, которые курят, ругаются матом и обзываются можно. Наша учительница тоже так говорит.

**Дима (11 класс):**

— Пускай кто-нибудь попробует меня избить! Я уже два года хожу в зал, качаюсь, впереди армия, к ней готовлюсь. А вообще не знаю, наверное, нет.

**Непредставившийся родитель:**

— Вообще, наверное, следовало бы для острастки. Дети, конечно, распустились. Но кто виноват? Жизнь сейчас такая. Мать с отцом думают, как прокормить, одеть. На детей внимания соответственно меньше. По себе знаю.




Рис. А. Шмидта

**Алла Фёдоровна (имеет школьников — сына и дочь):**

— Нет, нельзя. Я сама никогда не бью своих детей. Есть много других методов наказания. Битьё может просто плохо сказаться на психике и вообще на здоровье ребенка. Я когда-то учила психологию, поэтому точно знаю.

**Алексей Михайлович (пенсионер):**

— Я ходил еще в школу при Польше. Вот тогда дисциплина была! Помню, раз на уроке я что-то несделал, так учительница так линейкой по рукам дала, что аж пальцы повспухали!

Как видим, мнения разошлись. Кто-то за, кто-то против. Но если учесть, что на дворе конец XX в. и общество декларирует принципы гуманизма, хочется думать, что точки взаимопонимания могут быть найдены и в этом вопросе. А потому позволю себе склониться к мнению, что бить всё-таки не нужно. А вы как думаете, уважаемые читатели?

*Н. СИНКЕВИЧ.*

*г. Береза.*

● *ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА*

## "Калі ж адчыніцца дзетсад у Любішчыцах?"

Пад такім загалоўкам у нашай газеце ў кастрычніку мінулага года быў змешчаны матэрыял, у якім гаварылася аб тым, што ў вёсцы Любішчыцы, адным з вялікіх населеных пунктаў Івацэвіцкага раёна, у сувязі з рамонтам не стаў працаваць дзіцячы садок. 43 малышы пазбавіліся паслуг установы, яшчэ 30 дзяцей стаяць на чарзе. 11 работнікаў гэтай дзіцячай установы сталі беспрацоўнымі і павінны былі шукаць для сябе нейкай працы, каб пракарміцца.

У тым жа кастрычніку была перакрыта большая частка даху. І кіраўніцтва Любішчыцкага сельсавета, і загадчыца дзетсада гаварылі аб тым, што рамонт павінен закончыцца да Новага года. Маўляў, заключаны дагавор і да 1 лістапада 1998 года будзе рэканструявана ацяпляльная сістэма (перавод на газ), а іншыя работы будуць весціся ўжо ўнутры памяшкання.

З таго кастрычніка мінула ўжо звыш трох месяцаў. Па праўдзе сказаць, акрамя пакрыцця таго даху, мала што зроблена. Напрыклад, падвядзенне газу звязана з землянымі работамі, а зімой за гэта ніхто не бярэцца.

Новы тэрмін уводу дзетсада ў строй намечаны на май. Вяскоўцы зноў жа сумняваюцца, што слова будзе стрымана. Вельмі ж мала зацікаўлены ў рамонце кіраўніцтва калгаса "Любішчыцы" і асабліва эксперыментальнай базы "Майск". Адзін дзетсад на дзве гаспадаркі і рамантаваць яго амаль на працягу года гэта, мякка кажучы, валакіта, а не клопаты аб сельскіх працаўніках і іх дзецях.

